© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

№ 6(30)
Сакавік 1999

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



Мінск. 28 сакавіка 1999 году...

# Запалохваньне

**Беларускія ўлады правялі серыю рэпрэсіўных акцыяў супраць арганізатараў выбараў прэзідэнта Беларусі, прызначаных легітымным Вярхоўным Саветам краіны на 16 траўня...**

Многія палітычныя аглядальнікі, аналізуючы разьвіцьцё падзеяў у Косаве і Сербіі пасьля нанясеньня краінамі НАТО першых бомбавых udaраў, задаюць сабе пытаньні: хто выйграў і хто прайграў у выніку распачатых вайсковых дзеяньняў? Пакуль можна зрабіць адну несумненную высновy: у выйгрышы аказаўся толькі адзін чалавек — прэзідэнт Сербіі Слабадан Мілошавіч.Яшчэ зусім нядаўна на вуліцы Белграду на працягу месяца выходзілі дзесяткі тысяч грамадзянаў з патрабаваньнем да яго пайсьці ў адстаўку і правесьці дэма-кратычныя выбары, а сёньня можа падацца, што нібыта "увесь сербскі народ", незалежна ад палітычных перакананьняў, у адзіным патрыятычным запале зьяднаўся вакол "свайго прэзідэнта". Унутрысербскія праблемы адразу адыйшлі нібыта на другі план, патанулі ў закліках да барацьбы з "амерыканскімі агрэса-

(Заканчэньне на стар. 5)

## Хроніка

***11 сакавіка*** ў г.Белаазёрску (Бярозаўскі раён, Брэсцкая вобл.) супрацоўнікамі міліцыі быў затрыманы сябра Сялянскай партыі Канстанцін Вярцейка, які зьяўляецца членам ініцыятыўнай групы па вылучэньню Міхаіла Чыгіра на пасаду прэзідэнта РБ. Ён быў затрыманы падчас збору подпісаў, адвезены ў Бярозаўскую пракуратуру, дзе пракурор Курылевіч вынес яму папярэджаньне.

***12 сакавіка*** пракурор Цэнтральнага раёну г.Гомеля Емельяненка вынес папярэджаньне Віктару Арцюху за тое, што ён удзельнічаў у пасяджэньні савету мясцовай рэгіянальнай арганізацыі Свабоднага Прафсаюзу Беларускага, на якім разглядалася пытаньне аб вылучэньні членаў прафсаюзу ў склад раённай выбарчай камісіі.

***На 12 сакавіка*** позвамі былі выкліканы ў пракуратуру г.Гомеля да намесьніка пракурора В.Карпенюка сябры гомельскай гарадзкой выбарчай камісіі: І.Смагін, Г.Жук , М.Аксёнаў, А.Кацапава «для дачы тлумачэньняў».

***13 сакавіка*** ў г.Наваполацку адбыўся пікет, прымеркаваны да Дня Канстытуцыі, арганізаваны сябрамі мясцовай Рады БНФ «Адраджэньне». Пікетоўшчыкі трымалі плакаты: «Маем права на выбары», «Беларусь – вольная краіна», «16 траўня – выбары прэзідэнта РБ».

***15 сакавіка*** ў г. Белаазёрску (Бярозаўскі раён Брэсцкай вобл.) падчас збору подпісаў быў затрыманы старшыня мясцовай суполкі БНФ «Адраджэньне» Мікалай Суліма. Раённая пракуратура вынесла яму папярэджаньне.

(Працяг на стар. 2, 6-7)

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Хроніка падзеяў

*(Пачатак на стар. 1)*

*14 сакавіка* ў 18 гадзін, на бульвары Непакораных у г. Магілёве быў затрыманы сябра Беларускага Народнага Фронту Юры Пчэльнікаў. Пры затрыманьні яго абшукалі. Затым ён быў дастаўлены ў РАУС Кастрычніцкага раёну г. Магілёва для высьвятленьня асобы, дзе ўтрымліваўся напрацягу двух гадзінаў.

У затрыманага былі канфіскаваныя друкаваныя матэрыялы, сярод якіх: падпісныя лісты за вылучэньне З.Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты РБ; улёткі "Пазьняк пракладае Беларусі дарогу ў Еўропу"; улёткі з тэкстам аб Беларускай Народнай Рэспубліцы. Пратакол Ю. Пчэльнікаў адмовіўся падпісваць. Яго абвінавачваюць па частцы трэцяй арт. 173 КаАП РБ: "Распаўсюджваньне друкаваных выданьняў, выробленых з парушэньнем устаноўленага парадку і ня маючых выходных дадзеных, зьмест якіх накіраваны на нанясеньне шкоды дзяржаўнаму і грамадзкаму парадку, правам і законным інтарэсам грамадзянаў".

*15 сакавіка* ў г. Наваполацку ў дзевяць гадзінаў вечару падчас збору подпісаў за кандыдата ў прэзідэнты Зянона Пазьняка былі затрыманыя сябры БНФ «Адраджэньне» Зьміцер Салаўёў і Алег Пашкевіч. Міліцыянты патрабавалі напісаць тлумачэньні іх дзеяньняў. На пытаньне З.Салаўёва і А. Пашкевіча, на якой падставе іх затрымалі, міліцыянты адказалі, што яны падобныя на злодзеяў, якія знаходзяцца ў розшуку.

*15 сакавіка* ў баранавіцкую гарадзкую пракуратуру былі выкліканы сябры гарадзкой камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Сярод іх: сябра БСДП (НГ) Баляслаў Болбат, сябры БНФ «Адраджэньне» Уладзімір Гоўша, Георгій Загорскі, Тамара Зьверава, Міхась Барысевіч і старшыня Баранавіцкай Рады БНФ «Адраджэньне» Мікалай Севярцоў. Намесьнік пракурора г. Баранавічы Квашнін вынес ім папярэджаньні аб магчымым прыцягненьні да крымінальнай адказнасьці ў выпадку далейшай дзейнасьці камісіі па выбарах прэзідэнта РБ.

*15 сакавіка* намесьнік пракурора Савецкага раёну г.Гомеля А.А.Прасьнякоў вынес афіцыйнае папярэджаньне сябру БНФ «Адраджэньне», члену Цэнтральнай гарадзкой выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ Анатолю Паплаўскаму. Спадару Паплаўскаму растлумачана, што «у выпадку, калі Вы будзеце працягваць свае дзеяньні, Вы можаце быць прыцягнутыя да ўсталяванай законам адказнасьці».

*15 сакавіка* сябра БНФ «Адраджэньне» Мікола Клімовіч быў выкліканы ў пракуратуру Кастрычніцкага раёну г. Мінску. Пракурор Жукавец правяла з ім гутарку, зьвязаную з працай раённай выбарчай камісіі, у якую ён уваходзіць. М.Клімовічу было прапанавана падпісаць пратакол допыту.

*16 сакавіка* ў судзе Кастрычніцкага раёну г. Віцебска пачаўся судовы працэс над вядомым актывістам апазіцыі, старшынёй віцебскай Рады БНФ «Выбар» Уладзімірам Плешчанкам. Ён абвінячваўся ў дачыненьні да справы зьнікненьня бюста расійскага ваеначальніка Суворава. Супраць яго вылучанае абвінавачваньне па арт. 201, ч.2 і арт. 225 КК РБ (злоснае хуліганства і зьнішчэньне гісторыка-культурных помнікаў). Працэс выклікаў цікавасьць з боку прадстаўнікоў грамадзкасьці горада. У зале судовага паседжаньня не было вольнага месца. На працэсе прысутнічала назіральнік групы АБСЕ ў Беларусі Надзея Дударава, а таксама прадстаўнікі Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» Алесь Бяляцкі і Валянцін Стэфановіч, якія выступілі ў якасьці грамадзкіх абаронцаў. Варта нагадаць, што 50-ці гадовы У.Плешчанка ўжо сёмы месяц знаходзіўся пад вартай у СІЗА г.Віцебска.За гэты час стан ягонага здароўя значна пагоршыўся. Падчас свайго выступу У. Плешчанка заявіў, што судзяць яго не за хуліганства, а за палітычныя погляды і актыўную грамадзкую дзейнасьць. Падчас працэсу нечакана высьветлілася, што ў падсуднага адсутнічае абвінаваўчае заключэньне, дакладней у яго на руках толькі першы ліст заключэньня але ў трох экземплярах. Судзьдзя быў вымушаны спыніць працэс. Адвакат і грамадзкія абаронцы заявілі хадайніцтва аб неадкладным вызваленьні Уладзіміра Плешчанкі з пад варты пад падпіску аб нявыезьдзе. Але суд не задаволіў хадайніцтва. Працэс над палітычным вязьнем У.Плешчанкам перанесены на 26 сакавіка.

У г. Барысаве *11 сакавіка* падчас збору подпісаў за вылучэньне Міхаіла Чыгіра кандыдатам у прэзідэнты РБ быў затрыманы і дастаўлены ў ГАУС 26-гадовы сацыял-дэмакрат Зьміцер Абрамовіч. На яго быў складзены пратакол аб адміністратыўным правапарушэньні па арт. 167, ч.3 (парушэньне заканадаўства аб выбарах) КаАП РБ. На наступны дзень (*12 сакавіка*) зноў падчас збору подпісаў ён быў затрыманы міліцыянтамі на некалькі гадзінаў, але на гэты раз міліцыянты вырашылі за лепшае не складаць новы пратакол. *17 сакавіка* Зьміцер пры абыходзе кватэр з мэтай збору подпісаў за М.Чыгіра быў затрыманы супрацоўнікамі КДБ. Начальнік Барысаўскага адзьдзелу УКДБ па Мінску і Мінскай вобласьці маёр Літвінчык С.М. вынес З.Абрамовічу афіцыйнае папярэджаньне "за дзейнасьць, якая можа выклікаць адказнасьць, прадугледжаную арт. 61, ч. 1 КК РБ (змова з мэтай захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам)". Вышэйзгаданы артыкул Крымінальнага Кодэксу прадугледжвае адказнасьць у выглядзе пазбаўленьня волі на тэрмін ад васьмі да дванаццаці гадоў з канфіскацыяй маёмасьці ці без канфіскацыі. Нягледзячы на запалохваньне, Зьміцер Абрамовіч у той жа дзень працягнуў збор подпісаў.

*17 сакавіка* ў 17.00 у г.Баранавічы падчас збору подпісаў за кандыдата ў прэзідэнты РБ Зянона Пазьняка невядомымі ў цывільным быў затрыманы старшыня мясцовай Рады Маладога Фронту Алесь Пікула. Невядомыя не прад'явілі пасьведчаньняў супрацоўнікаў міліцыі і таму Алесь аказаў супраціўленьне. Невядомыя зьбілі яго і сілай зацягнулі ў машыну, дзе пагражалі яму і праводзілі размову аб ягонай палітычнай дзейнасьці. Павазіўшы па горадзе, невядомыя выпусьцілі Алеся, ня склаўшы на яго ніякіх афіцыйных папераў. Алесь Пікула зьвярнуўся са скаргаю ў мясцовую пракуратуру. 25 сакавіка ён атрымаў адказ ад начальніка Баранавіцкага ГАУСу падпалкоўніка міліцыі С. Мостыка (копія адказу накіраваная пракурору г.Баранавічы), дзе сказана: «...па факту звароту з заявай г-на Пікула А.В. аб узбуджэньні крымінальнай справы адмоўлена на падставе арт.5, п.2 КПК РБ (адсутнасьць складу злачынства). Пошук асобаў, з якімі адбыўся ў Вас канфлікт 17.03.99 г., працягваецца. Пры нязгодзе з прынятым рашэньнем Вы можаце абскардзіць дадзеную пастанову ў пракуратуры г.Баранавічы».

*17 сакавіка* ў г. Ганцавічы (Брэсцкая вобл.) быў прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасьці па Арт. 166.1 КаАП РБ (непавага да суда) вядомы ў Ганцавічах праваабаронца, сябра БНФ "Адраджэньне" Мікалай Занька. Суд наклаў на яго спагнаньне ў выглядзе 10 сутак адміністратыўнага арышту. 17 сакавіка Мікола Занька прысутнічаў пры разглядзе грамадзянскага зыску аб узнаўленьні на працы жыхаркі Ганцавіч Сьвятланы Варвашэвіч. Калі судзьдзя Буднік, якая разглядала гэтую справу, выйшла ў пакой судзьдзі для вынясеньня канчатковага рашэньня, ён стаў сьведкам грубага парушэньня закону. Занька ўбачыў, як пракурор раёну Сяргей Туравец, які не прымаў удзелу ў разглядзе гэтай справы, перадаваў тэчку са справай Варвашэвіч старшыні суда. Потым ён і яго сябры бачылі, як сакратар суда Натальля Муха прынесла справу Варвашэвіч ад старшыні суда назад судзьдзі Буднік, якая прыняла справу і пайшла ў залу пасяджэньня для вынясеньня канчатковага рашэньня. Мікола Занька запатрабаваў спыніць гэтае яўнае парушэньне закону з боку судзьдзяў і супрацоўнікаў пракуратуры. У адказ на гэта судзьдзя выклікала ў суд нарад міліцыі, які затрымаў Заньку. Аб дадзеным парушэньні быў складзены акт, які падпісалі чатыры сьведкі гэтага беззаконьня.

*17 сакавіка* ў г. Наваполацку (Віцебская вобл.) позна ўвечары пачаўся пажар у рэдакцыі мясцовай незалежнай газеты "Хімік". Невядомымі асобамі былі падпаленыя дзьверы рэдакцыі. Газета надрукавала шэраг артыкулаў, якія ўтрымлівалі крытыку дзейнасьці мясцовых уладаў, друкавалася іншая інфармацыя апазіцыйнага зьместу. Мясцовыя ўлады спрабавалі зьнішчыць гэтае незалежнае выданьне шляхам аб'яднаньня рэдакцыі газеты "Хімік" з газетай выканкаму "Новая газета". Супрацоўнікі "Хіміка" сьцьвярджаюць, што неаднаразова атрымлівалі пагрозьлівыя ананімныя званкі. Такім чынам, ёсьць падставы меркаваць, што гэты падпал можа быць невыпадковым і накіраваным на далейшае запалохваньне супрацоўнікаў незалежнай газеты "Хімік".

*18 сакавіка* ў судзе Цэнтральнага раёну г. Магілёва адбыўся суд над непаўнагадовым сябрам мясцовай арганізацыі Малады Фронт Алесем Паўтарацкім, які напярэдадні быў затрыманы пад час збору подпісаў за кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Зянона Пазьняка. Судзьдзя Сарока прыцягнула юнака да адміністратыўнай адказнасьці па арт. 167.3 КаАП РБ (парушэньне заканадаўства аб выбарах) і наклала на яго штраф у памеры 250 тыс. рублёў. Судзьдзя адмовілася дапусьціць у якасьці грамадзкага абаронцы Валадара Цурпанава. Парушэньнем зьяўляецца ўжо само прыцягненьне Паўтарацкага да адміністратыўнай адказнасьці праз суд. Згодна з арт.13 і арт. 201 КаАП РБ, падобныя справы павінны разглядацца раёнымі камісіямі па справах непаўнагадовых.

*(Працяг на стар. 6-7)*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Віктар ГАНЧАР:

# "Мяне трывожыць лёс маёй краіны..."

***Шырока разгорнутая кампанія па правядзеньні прызначаных легітымным Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га скліканьня на 16 траўня выбараў прэзідэнта краіны стала падставай для распачынаньня рэпрэсіяў супраць арганізатараў выбараў. Зразумела, адным з першых быў арыштаваны старшыня Цэнтрвыбаркаму Віктар ГАНЧАР. Пасьля сканчэньня 10-цідзённага арышту супраць яго была ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 190 КК РБ (самавольнае прысваеньне званьня альбо ўлады службовай асобай). Аднак Віктар Ганчар ня з тых людзей, якіх можна запалохаць...***


Віктар ГАНЧАР

***— Спадар Віктар, як вы зараз сябе адчуваеце? Хоць прайшло мала часу пасьля вашай сухой галадоўкі ў сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку, я чула, вы ўжо вярнуліся да справаў?***

— Ведаеце, я менш за ўсё люблю гаварыць пра сваё здароўе, і гэта, напэўна, уласьціва любому мужчыне, які заняты справаю. Зразумела, я пачаў ужо працу, хоць бы таму, што графік правядзеньня выбарчай кампаніі настолькі жорсткі з пункту гледжаньня чарговасьці мерапрыемстваў, што нават у стане, калі лекары катэгарычна не рэкамендавалі зьнешнія кантакты, я мусіў заняцца працай. У панядзелак (на 4-ты дзень пасьля галадоўкі – *Т.С.*) была праведзеная шырокая нарада са старшынямі абласных выбарчых камісіяў па выбарах прэзідэнта з удзелам кіраўнікоў ініцыятыўных групаў кандыдатаў у прэзідэнты В.Шлындзікавым і С.Папковым. Мы абмеркавалі пытаньні, зьвязаныя са стварэньнем участкаў, участковых камісіяў, а таксама механізмы пацьверджаньня пячаткамі раённых і гарадзкіх камісіяў, падпісных лістоў – з тым, каб у гэтых анамальных умовах праца членаў ініцыятыўных групаў проста не прапала дарма.

***— Вам ніколі не прапаноўвалі зьехаць з Беларусі – назаўжды альбо, як кажуць, «ненадоўга, да перамогі дэмакратыі»? У вас самога не ўзьнікалі такія думкі ў мінулыя гады?***

— Прапановы былі, і неаднаразовыя; думкі – не ўзьнікалі. Што да майго прафесійнага выкарыстаньня, то, натуральна, я меў мноства прапановаў, па мерках Беларусі, на проста фантастычных кантрактных умовах. Зразумела, на некаторыя з гэтых прафесійных прапановаў я адгукаўся, бо жыцьцё ёсьць жыцьцё, любому мужчыне, апроч усяго астатняга, патрэбна забясьпечваць сям'ю. Напрыклад, з ліпеня па сьнежань мінулага году я працаваў па кантракту ў Латвіі, у Асацыяцыі камерцыйных банкаў гэтай краіны, дзе быў прызначаны трацейскім судзьдзём. Аднак сама думка пакінуць Беларусь для мяне ў прынцыпе не існуе, і сама такая ідэя, з пункту гледжаньня яе практычнай рэалізацыі, у прынцыпе не магла ставіцца проста таму, што я – «пяцідзесятнік», я ўвабраў тую атмасферу і сацыяльна не ўяўляю сябе па-за нашай краінай. Я проста люблю сваю Радзіму, і для мяне гэткая пастаноўка пытаньня абсалютна непрымальная. Я, калі спрашчаць, проста не змагу жыць у іншай краіне.

***— Ваш учынак натхніў многіх людзей. Што б вы маглі ім зараз сказаць?***

— Што на самой справе для мяне праблемы выбару проста не было. Гэта ўчынак, як вы яго назвалі, у якога не было альтэрнатывы. На жаль, іншага спосабу, іншага рэальнага механізму абароны сваіх правоў, сваёй палітычнай і чалавечай годнасьці проста не існавала. Прымаючы да ўвагі, што я насамрэч сутыкнуўся, прабачце за гэткую тэрміналогію, са жлобскім стаўленьнем і з цалкам садысцкай сістэмай падаўленьня чалавечай годнасьці (гэта, верагодна, ставілася і ў якасьці палітычнай мэты, і ў якасьці прыкладной мэты – падаўленьня мяне як асобы), я не хацеў бы выкарыстоўваць тут такую высакамоўную тэрміналогію: «мужны ўчынак», альбо проста «учынак»... Альтэрнатывы не было, і, верагодна, гэтым тлумачыцца тое, што для мяне псіхалагічна ўсе гэтыя дзесяць дзён не суправаджаліся нейкімі асаблівымі пакутамі, і рашэньне было вельмі простым.

***— Такім чынам, вы былі гатовыя да гэтага даўно?***

— Маральна, псіхалагічна быў гатовы даўно. На жаль, не зусім быў гатовы нават мой моцны арганізм, таму на чацьвёрты-пяты дзень воля толькі ўзмацнялася. Арганізм жа пачаў крышачку даваць збоі – я маю на ўвазе тыя самыя пакутныя дні, калі мяне пастаянна душылі спазмы і, на жаль, прыступы ішлі адзін за другім. Тым ня менш нават у гэтай крытычнай сітуацыі ў мяне праблемы выбару таксама не было. Я катэгарычна адмаўляўся ад гэтак званай прымусовай медыцынскай дапамогі, якую мне прапаноўвалі сіламі медчасьці МУС. Гэта было абсалютна непрымальна...

***— Рэжым спалохаўся вашай магчымай сьмерці ці рэзанансу ад яе наступстваў? Увогуле, рэпрэсіі супраць асабіста Віктара Ганчара – гэта прызнаньне вас самым небясьпечным ворагам альбо асабістая помста былога, скажам так, паплечніка?***

— Я думаю, тут ёсьць і першае, і другое, і трэцяе. Ведаючы асаблівасьці Лукашэнкі, які сапраўды гатовы пайсьці на ўсё дзеля захаваньня ўлады (гэта, вядома, ужо праблема псіхіятрычная) – зразумела, тут прысутнічае асьпект, які вы назвалі асабістай помстай. Але асноўнае, пераважнае — гэта элементарныя боязь і паніка, якія вызначалі дзеяньні ўсіх тых асобаў, што прымалі рашэньні. Але на самай справе рашэньні прымаліся на ўзроўні Лукашэнкі і Шэймана. Адсюль — часам неадэкватныя і запозьненыя дзеяньні. Скажам, каб прыняць рашэньне аб гвалтоўным кармленьні, спатрэбілася два дні, таму што ўжо ў сераду сьпецыялістам было зразумела, што я знаходжуся ў крытычным стане. І, верагодна, з прычыны таго, што ніхто ня мог прыняць рашэньне (гэта была прэрагатыва Лукашэнкі і Шэймана) спатрэбілася два дні, каб прыняць гэткае неадэкватнае, калі не сказаць больш жорстка – дэбільнае рашэньне, з пункту гледжаньня медыцынскіх паказчыкаў. Не выпадкова напярэдадні гэтага рашэньня ў маёй камеры зьявіліся першы намесьнік міністра ўнутраных справаў Удовікаў і кіраўнік гарадзкой міліцыі, начальнік ГУУС Мінгарвыканкаму Тарлецкі. Іхні візіт быў найбольш паказальны з пункту гледжаньня той падаплёкі, пра якую вы кажаце. Удовікаў, які пяць гадоў знаходзіўся са мной побач у якасьці дэпутата Вярхоўнага Савету 12 скліканьня, увайшоў у камеру, крыкнуў: «Устаць!» – і пасьля таго, як мае сукамернікі ўскочылі, мімаходзь зірнуў на мяне і выскачыў з камеры. Гэткая агульная псіхалагічная абстаноўка спадарожнічала майму ўтрыманьню ў камеры. Таму не выпадкова, што было прынятае... самае неверагоднае рашэньне: вывесьці мяне гвалтоўна з галадоўкі з выкарыстаньнем АМАПаўцаў у чорных масках. У сувязі з гэтым, я думаю, што над людзьмі, якія прымалі рашэньні, пераважаў страх, жывёльная паніка... Зразумела, што наўрад ці іх непакоіў стан майго здароўя. Баяліся, што будзе ўцечка інфармацыі, жудасны скандал — што непазьбежна магло прывесьці да руйнаваньня асноваў гэтай дзіўнай улады. Я падкрэсьліваю: дзіўнай, паколькі ўсе яе дзеяньні ў межы здаровага сэнсу не ўкладаюцца.

*(Працяг на стар. 4-5)*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# "Мяне трывожыць лёс маёй краіны..."

(Пачатак на стар. 3)

***— Людзі ў цывільным, якія зьяўляліся ў камерах, дзяжурылі на паверхах – гэта, відавочна, ня толькі спроба прадухіліць уцечку інфармацыі. Ці не заўважалі вы, што да вас неяк асабліва ставіцца ня толькі сукамернікі, але і ахова, міліцыя, увесь кантынгент, які знаходзіцца на Акрэсьціна?***

— Вось самае цікавае, што на працягу гэтых дзесяці дзён у сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку адбылася самая сапраўдная сацыяльна-псіхалагічная рэвалюцыя. Калі ў першыя тры дні ў рэжыме ўтрыманьня панавалі мат, хамства ды прыніжэньне чалавечай годнасьці, то ў апошні тыдзень гэта больш нагадвала ўзаемныя адносіны людзей у аздараўленчым пансіянаце. Ня з пункту гледжаньня ўмоваў утрыманьня, а з пункту гледжаньня ўзаемаадносінаў людзей. Тое, што трое членаў Цэнтральнай выбарчай камісіі ( паколькі С.Абадоўскі быў амаль адразу па стану здароўя выпушчаны) зьмянілі абстаноўку, мікраклімат і нават умовы ўзаемаадносінаў людзей, я лічу ня меншым нашым дасягненьнем, чым усе рэальныя палітычныя і маральныя наступствы нашага арышту. Я ўжо не кажу пра тое, што тыя людзі, якія ніколі ў жыцьці не цікавіліся палітыкай, лічылі зьяўленьне газетаў, інфармацыі адносна рэакцыі на нашыя дзеяньні ў сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку для сябе больш важным, чым атрыманьне той жа пайкі, якая раней была для іх галоўнай і асноўнай. І ня думайце, што я перабольшваю, паколькі па сістэме вентыляцыйнай сувязі сьпецпрыёмніка-разьмеркавальніка прасілі толькі дзьве рэчы: цыгарэты і газеты.

***— Хутка які-небудзь мінскі валютчык напіша мемуары «Як я сядзеў з Ганчаром»!***

— Вось вы іранізуеце, а між тым вашая іранічная заўвага літаральна паўтарае фразы тых, хто са мной сядзеў разам. Таму што адзін з іх, беспрацоўны, які падрабляе часовымі «шабашкамі», сказаў: «Цяпер я змагу ў сябе, на вуліцы Чыгладзе, гаварыць, што сядзеў разам з палітычнымі!». І ён прасіў толькі аб адным: каб яму пакінулі тыя газеты, якія Шчукін часам перадаваў на Акрэсьціна. Што да работніка заводу «Гарызонт», дык ён увогуле сказаў: «Я вельмі задаволены, што патрапіў сюды выпадкова пасьля сваркі з жонкай: тут для мяне адкрыўся цалкам іншы ўзровень жыцьця». Гэта не перабольшваньне. Я насамрэч магу гаварыць з гонарам, што вельмі дастойна паводзілі сябе члены Цэнтральнай выбарчай камісіі Гюнтэр і Гурыновіч. Мы сапраўды дабіліся такой вось псіхалагічнай рэвалюцыі.

***— «Адна з самых цывілізаваных партыяў Украіны» (вызначэньне газеты «Наша Ніва»), Народна-дэмакратычная партыя, выказала намер маральна падтрымаць выбарчую кампанію і прысласць на травеньскія выбары сваіх назіральнікаў. Якія палітычныя сілы яшчэ зрабілі заявы ў падтрымку пасьля арышту Цэнтральнай выбарчай камісіі?***

— Так атрымалася, што арышты членаў Цэнтрвыбаркаму настолькі актывізавалі гэты працэс, што з палітычнага пункту гледжаньня больш пазітыўнага выніку цяжка было і чакаць. Таму асобныя мае калегі цяпер іранізуюць, што, спраўды, трэба падзякаваць тым, хто прымаў гэткія – прабачце, я вымушаны паўтарыць зноў – дэбільныя рашэньні. Менавіта яны справакавалі нябачаную і нячутую цікавасьць да падзеяў у Беларусі, а значыць – рэальна садзейнічаюць інфармацыйнай кампаніі па агітацыі на карысьць выбараў. І сёньня мы ўжо бачым рэальныя вынікі гэтых падзеяў. Я думаю, што заява памянёнай вамі партыі – першая ластаўка, паколькі зараз самым сур'ёзным чынам вывучаецца сітуацыя ў Беларусі ўсімі еўрапейскімі структурамі. Вам вядома і пра адмысловую рэзалюцыю Еўрапарламенту, і я мяркую, што пасьля рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты мы сутыкнемся з новай палітычнай рэальнасьцю ў Беларусі, калі ўдзел міжнародных назіральнікаў стане непазьбежным. Можна стопрацэнтова прагназаваць вынік вывучэньня і аналізу беларускай сітуацыі: мы будзем мець на выбарах 16 траўня 1999 году масавы наплыў міжнародных назіральнікаў.

***— Ім не пагражаюць рэпрэсіі?***

— Гэта ўжо праблема Лукашэнкі.

***— Вы сказалі, што сухая галадоўка была для вас натуральным учынкам, не было ўнутраных хістаньняў, калі ішлі на такі крок. Усё ж чаго было больш у матывацыі: прагматызму, абароны нацыянальнага гонару – ці гэта была барацьба за дэмакратыю як такую?***

— На самой справе гэта быў вымушаны выбар. Хістаньняў не было, бо выбар быў зроблены загадзя. Што да складнікаў матывацыі, то, натуральна, тут было ўсё. Я разумеў, што гэты, здавалася б, лакальны выпадак мае значэньне для ўсёй выбарчай кампаніі. Я разумеў, што, калі ўдасца зламаць мяне як старшыню Цэнтральнай камісіі, то выбарчая кампанія проста заглохне ды захлынецца. А разумеючы сэнс выбарчай кампаніі для маёй краіны, разумеючы, што гэта – фактычна апошні шанц... Адным словам, мной рухала ўсё адразу. Гэта і абарона сваёй службовай годнасьці, і абарона сваёй нацыянальнай годнасьці, і проста абарона асабістай, мужчынскай годнасьці. Улічваючы гэткі ўзровень матывацыі, няхай нават супрацьнатуральнай (бо рэдка калі даводзіцца ісьці на абарону сваёй годнасьці шляхам рэальнай пагрозы жыцьцю і здароўю), выбар быў простым, арганічным і натуральным, у тым сэнсе, што ў мяне адсутнічала праблема выбару.

***— Раней на галадоўку ішла ў асноўным моладзь з Маладога Фронту, таму, што і казаць, для многіх ваш выбар стаўся нечаканасьцю. «Мы і ня ведалі, — чула я, — што спадар Ганчар такі нацыянальна сьвядомы». Можна трохі пра вашую нацыянальную сьвядомасьць?***

— Калі ўзьнікае пытаньне пра нацыянальную сьвядомасьць, яно мяне крыху зьдзіўляе, таму што кожны чалавек, нават з пункту гледжаньня распаўсюджанай у нас вычварэнскай масавай сацыяльнай псіхалогіі, усё роўна каранямі – з нашае зямлі. І як, напрыклад, Ганчар можа быць не нацыянальна сьвядомым, калі ў мяне ўсё зьвязана з гэтаю зямлёй? Для кагосьці мой учынак, можа, і нечаканы, але ўсё ў нас – з дзяцінства, з сям'і, з выхаваньня. Трэба зразумець, што я вырас у вялікай шматдзетнай сям'і, што мы вельмі цяжка жылі. Я сам сябе вывучыў, паколькі ўсе пяць гадоў вучобы ва ўніверсітэце, а затым тры гады вучобы ў асьпірантуры пастаянна недзе дадаткова працаваў. Я трынаццаць гадоў выяздджаў на так званыя шабашкі. З гэтага пункту гледжаньня для мужчынскага ўчынку не было праблемаў, бо ў мяне жыцьцё было з такімі выпрабаваньнямі, складанасьцямі і з такой загартоўкай, што я змог вытрымаць і гэткі ўзровень выпрабаваньняў. Гэта проста натуральная канстатацыя, а ня нейкая фразеалогія. Калі казаць пра карані, у мяне насамрэч усё зьвязана з тым, што для кожнага беларуса зьяўляецца арганічным і натуральным. І мінулае, і цяперашняе, і ўсе планы на будучыню я зьвязваю зь лёсам маёй краіны, маёй сям'і, людзей, якія мяне атачаюць. Трэба, напэўна, расстаўляць іншыя акцэнты ў нацыянальным пытаньні: трэба вярнуцца да таго, што зьяўляецца натуральным для жыхара любой краіны. Бяда і нацыянальная трагедыя, што гэта не натуральнае для беларуса. Няўжо ўзьнікае пытаньне аб нацыянальнай сьвядомасьці, скажам, для жыхара Злучаных Штатаў, дзе ўсё гэта давядзенае да зусім утрыраваных формаў? Няўжо ўзьнікаюць такія пытаньні для паляка ці латыша?

Верагодна, мы жывем у сьвеце нейкіх перакуленых паняцьцяў, калі нават лёс сваёй краіны, свайго дому становіцца прадметам дыскусіяў з пункту гледжаньня таго, «хто больш шчыры» і «хто больш нацыянальна сьвядомы». Нам трэба вярнуцца ў натуральны стан, калі інтарэсы сваёй краіны, нацыянальныя прыярытэты асэнсоўваюцца кожным як нешта арганічнае і натуральнае. Гэткім самым чынам патрэбна прыйсьці да такога стану, каб клопат дзеля карысьці сваёй краіны, без усялякіх там ідэалагічных «-ізмаў» і «-фізмаў» стаў галоўнай мэтай любога грамадзяніна краіны. Толькі тады, калі нацыя, народ аб'ядноўваюцца ў разуменьні гэтых натуральных прынцыпаў, і адкрыецца шлях да нацыянальнага росквіту. З гэтага якраз і пачыналі ўсе краіны посткамуністычнай эпохі. Як толькі Польшча, Чэхія, краіны Балтыі асэнсавалі свае непарушныя нацыянальныя прыярытэты, у іх былі зьнятыя вельмі многія праблемы.

***— Калі ўжо казаць пра аб'яднань-***

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

***не нацыі – на Беларусі зараз, здаецца, настаў зручны момант?***

— Я да гэтага стаўлюся вельмі станоўча і з пункту гледжаньня аналітычных падыходаў, і з пункту гледжаньня падыходаў нацыянальных. Зараз склалася сітуацыя, калі саўковае мысленьне, адарванае ад нацыянальных інтарэсаў, ад асэнсаваньня сваёй самабытнасьці, ужо адыходзіць на задні план. Як ні дзіўна гэта прагучыць, рэжым сваімі цалкам алагічнымі дзеяньнямі, якія прыніжаюць чалавечую годнасьць беларусаў, садзейнічаў небываламу росту і ўздыму нацыянальнай самасьвядомасьці. Улічваючы, што зараз разьвеяўся, як пыл, увесь гэты блеф наконт нейкай інтэграцыі ў рамках малазразумелага «славянскага адзінства», менавіта зараз ствараюцца ўнікальныя перадумовы для таго, што адкрывае шлях да нацыянальнага разьвіцьця і росквіту. Гэта ўсьведамленьне кожным сваёй прыналежнасьці да таго, што завецца Радзімай, нацыянальным домам, калі кожны грамадзянін заяўляе пра гэтую прыналежнасьць з гонарам. І я ўпэўнены, што хутка і кожны грамадзянін нашай краіны будзе з гонарам гаварыць, што ён – жыхар, грамадзянін Беларусі. А гэта – галоўная ўмова для эканамічнага, духоўнага разьвіцьця нацыі.

***— Пытаньне, якое здаецца банальным: якія вашы любімыя пісьменьнікі, якія кнігі на вас аказалі найбольшы ўплыў?***

— Я ў дзяцінстве чытаў шмат, сістэматычна і «узахлёб». І тым ня менш кніга, якая зьяўляецца дагэтуль для мяне любімай — пры ўсім тым, што я магу пазнаму ставіцца да яе галоўнага персанажу, і маё стаўленьне да яго зьмянілася – гэта раман «Пётр І» Талстога...

***— Сярод простых людзей, якія сёньня кажуць: «Дык калі, калі ўжо яго перавыберуць?!», мала разумеючы сітуацыю ў краіне, існуе такое меркаваньне: «Ганчар хоча быць прэзідэнтам сам». Спадар Віктар, вы хочаце быць прэзідэнтам?***

— У мяне пасьля сарака гадоў зьмянілася адчуваньне сябе ў сьвеце і ўяўленьне пра сваё прызначэньне. Як любы нармальны мужчына, я заўжды імкнуўся да самарэалізацыі, таму ніколі не хаваў сваіх бязьмежных амбіцыяў. Гэта таксама натуральна. У любога мужчыны павінна быць трошкі завышаная самаацэнка, гэта ёсьць галоўны стымул да самарэалізацыі. Але я лічу, што да сарака гадоў я ўсяго дасягнуў, усяго паспытаў з пункту гледжаньня сваёй самаацэнкі і ўяўленьня аб самарэалізацыі. Цяпер для мяне галоўнае – дамагчыся такога асяродзьдзя, такой абстаноўкі ў нашай краіне, калі ўсё будзе залежыць тольківад самой асобы, канкрэтнага чалавека. Самамэта для мяне – дабіцца такой нармальнай абстаноўкі. Калі адказваць на вашае пытаньне проста і канкрэтна, то гэткай самамэты – стаць прэзідэнтам – для мяне зараз не існуе, паколькі ў сваім сёньняшнім стане я магу лічыць сябе самадастатковым і самакаштоўным. Для мяне зараз галоўнае – поўная самарэалізацыя ў нармальным асяродзьдзі. Замест пастаяннай зьнясільваючай, бессэнсоўнай барацьбы – заняцца той пазітыўнай дзейнасьцю, дзе я мог бы поўнасьцю раскрыцца і прафесійна, і ў чалавечым плане. А ў якім статусе, на якой пасадзе, на якой вяршыні ды ў межах якой піраміды – гэта ня сутнасна важна. Калі акажацца так, што лепш за мяне ніхто ня здолее выканаць нейкую задачу, я заўсёды гатовы яе выканаць. Прыкладам, зьвярнуліся да мяне з просьбаю выканаць здавалася б непад'ёмную, з пункту гледжаньня арганізацыйных і тэхнічных праблемаў, задачу выбарчай кампаніі. Я адчуваў сябе гатовым да гэтага, і мы з калегамі зрабілі, здавалася б, абсалютна немагчымае. Зараз я ня стаўлю эгацэнтрычных мэтаў: дасягнуць службовага становішча любым коштам. Для мяне гэткай праблемы проста не існуе. Але калі абставіны складуцца так, што выкананьне нейкай задачы запатрабуе цалкам канкрэтнага чалавека, калі я буду запатрабаваны для выкананьня гэткай задачы – зразумела, у залежнасьці ад абставінаў будуць ставіцца канкрэтныя мэты.

***— Чаму ўсё ж крымінальная справа супраць вас заведзеная не па артыкуле «змова супраць улады» (пра што папярэджвала пракуратура), не па артыкуле «крадзяжы» (што магло б вынікаць з асабістага прылюднага абвінавачаньня вас Лукашэнкам у невяртаньні крэдыту), а па арт. 190 – «прысваеньне званьня альбо пасады»? Чаму пагрозы зрушыліся ў больш мяккі бок? І як у сувязі з гэтым расцэньваеце вобыск у вас дома 16 сакавіка?***

— Калі казаць пра юрыдычныя абгрунтаваньні, то ўсё гэта – чыстая прававая лухта і прававы маразм. Па якім там артыкуле яны завялі – альбо плануюць завесьці — крымінальную справу, мяне ў прынцыпе не цікавіць, і я кажу гэта цалкам цьвёрда і без усялякіх агаворак. Я не магу ставіцца сур'ёзна да таго, што для мяне незразумела ні з прафесійнага пункту гледжаньня, ні з пазіцыяў здаровага сэнсу. Што да хістаньняў, то гэта зноў сьведчыць аб поўнай разгубленасьці і паніцы сярод тых, хто прымае рашэньні. Я зусім не зьдзіўлюся, калі заўтра будзе ўзбуджаная крымінальная справа за палітычны экстрэмізм, распальваньне міжнацыянальнай варожасьці... Бо цяжка сабе ўявіць, што можа прыйсьці ў галаву шызафрэніку, які чапляецца за ўладу. У гэтым шэрагу – і так званы «вобыск». Паколькі нічога агульнага з працэсуальнымі нормамі наават зьнешне ён ня мае. Гэта нейкая праява садысцкага бандытызму. Сапраўды садысцкага і сапраўды бандытызму, паколькі няма нават намёку на захаваньне працэсуальных нормаў, а калі падчас вобыску наносяцца яшчэ і цялесныя пашкоджаньні жанчыне...Пра што тут можна гаварыць?

***— Вашую жонку ўдарылі гэтыя «сантэхнікі» у цывільным! Колькі іх усяго было?***

— Гэта былі людзі ў цывільным, якія назваліся работнікамі энерганагляду. І ўражальна тое, што іх было каля пятнаццаці чалавек. Таму наўрад ці ставілася задача вобыску як такога – гэта, зноў жа, з той жа серыі. Яны чамусьці не губляюць ілюзіяў, што можна гэткімі, з іхняга пункту погляду, запалохваючымі, садысцкімі акцыямі прымусіць зьмяніць агульны пункт погляду альбо пазіцыю. Гэта мне ўяўляецца ўжо проста камічным і сьмешным...

**Гутарыла**
**Тацяна СЬНІТКО**

# Запалохваньне

*(Пачатак на стар. 1)*

рамі". Голасу ж апазіцыі не чуваць зусім...

Падзеі на Балканах у сваіх інтарэсах скарыстаў і яшчэ адзін "чырвоны прэзідэнт" і дыктатар — Аляксандр Лукашэнка. "Пад шумок" ён вырашыў расправіцца з апазіцыяй, што распачала арганізацыю прызначаных Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га скліканьня на 16 траўня прэзідэнцкіх выбараў. Момант абраны і сапраўды вельмі зручны. Краіны Захаду занятыя сербска-косаўскім канфліктам, а Расія заплюшчвае вочы на шматлікія парушэньні правоў чалавека ў нашай краіне, бо беларускі прэзідэнт застаўся фактычна адзіным яе саюзьнікам у барацьбе з НАТО, і ён да таго ж ня супраць папалохаць краіны Захаду вяртаньнем расійскіх ядзерных ракетаў на тэрыторыю Беларусі... Для міжнароднай супольнасьці застаўся амаль незаўважаным нават факт арышту зарэгістраванага ў афіцыйным парадку кандыдата ў прэзідэнты (за яго ў сёньняшніх умовах запалохваньня сабрана больш за 130 тысяч подпісаў па ўсёй краіне), былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра. Арыштаванага, дарэчы, па надуманых, яўна сфальсіфікаваных абвінавачваньнях, з-за якіх яскрава выглядваюць прычыны палітычныя. "Пад каўпаком" у сьпецслужбаў пастаянна знаходзяцца і сябры Цэнтральнай выбарчай камісіі на чале з Віктарам Ганчаром. Што казаць тады пра рэпрэсіі супраць простых грамадзянаў, якія актыўна ўключыліся ў збор падпісаў за кандыдатаў у прэзідэнты, увайшлі ў склады мясцовых выбарчых камісіяў... Шматлікія факты іхняга перасьледу, у тым ліку і псіхалагічнага, маральнага, прыводзяцца ў "Хроніцы падзеяў" (якую, пэўна, варта было б назваць *"Хронікай рэпрэсіяў"*), што друкуецца ў гэтым нумары "Права на волю". Але гэта толькі кропля ў моры: за ўдзел у арганізацыі выбараў прэзідэнта перасьледуюцца сёньня тысячы грамадзянаў па ўсёй Беларусі. Правы чалавека пры гэтым парушаюцца асабліва груба і цынічна. Бяда ў тым, што прававы "беспредел", які чыніцца сёньня ў Беларусі, міжнароднай супольнасьцю, занятай балканскімі клопатамі, фактычна застаецца не заўважаным. Маўчыць тэлебачаньне, маўчаць газеты. Беларускі дыктатар нібыта і не ўспрымаецца ўсур'ёз на тле іншых еўрапейскіх турботаў. Праблемы Беларусі такім чынам заганяюцца ўнутр краіны і цалкам аддаюцца на водкуп Лукашэнку, які, каб захаваць сваю ўладу, не спыняецца ні перад чым.

Так, сёньня Еўропе і Расіі нібыта не да Беларусі, не да яе апазіцыі, што прыкладае вялікія высілкі ў барацьбе з дамарошчаным фюрэрам — "бацькам". Але заўтра, калі беларускі дыктатар расправіцца з апошнімі парасткамі дэмакратыі ў сваёй краіне, можа стаць, як і Мілошавіч, зубным болем усяго сьвету, ці ня будзе позна: шанц пазбавіцца яго дэмакратычным, легітымным шляхам будзе канчаткова страчаны.

**Андрэй НАЛІВА**



© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

